# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1995 СТУДЗЕНЬ 18 СЕРАДА

№ 11/ 939

Цана 60 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### МІНСК — СЭНДАЙ: ЁСЦЬ КАНТАКТЫ!

У канцы студзеня два ўрачы мінскай гарадской клінічнай бальніцы № 10 і дзіцячай інфекцыйнай бальніцы адправяцца на трохмесячную стажыроўку ў японскі горад Сэндай.

Па словах начальніка аддзела замежных сувязей Мінгарвыканкама Сяргея Берташа, стажыроўка медыцынскіх работнікаў у Сэндайскім шпіталі ажыццяўляецца ў рамках праграмы супрацоўніцтва гарадоў-пабрацімаў. На працягу трох апошніх гадоў у Японіі прайшлі ўжо перападрыхтоўку восем мінскіх урачоў.

Развіццё кантактаў паміж Мінскам і Сэндаем не абмяжоўваецца галіной аховы здароўя. Рэгулярна праводзіцца абмен выставамі фотаздымкаў і дзіцячых малюнкаў. Штогод беларускія спартсмены прымаюць удзел у паўмарафоне каманд гарадоў-пабрацімаў Сэндая. Сёлета з Японіі атрымана запрашэнне на ўдзел шасці беларускіх спартсменаў у спаборніцтвах, што пройдуць 12 сакавіка.

У красавіку чакаецца прыезд у Мінск афіцыйнай дэлегацыі з японскага горада-пабраціма.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

### ДЗМІТРЫЙ БУЛАХАЎ: «МАГЧЫМАСЦЬ СКЛАДАННЯ ПАЎНАМОЦТВАЎ НЕ ВЫКЛЮЧАЕЦЦА»

13 студзеня старшыня парламенцкай камісіі па заканадаўству Дзмітрый Булахаў пацвердзіў магчымасць складання сваіх паўнамоцтваў як прадстаўніка Прэзідэнта ў Вярхоўным Савеце.

Нягледзячы на тое, што юрыдычна пасады «прадстаўнік Прэзідэнта» не існуе, а была толькі вусная заява кіраўніка дзяржавы аб тым, што Дзмітрый Булахаў прадстаўляе яго інтарэсы ў парламенце, старшыня камісіі заявіў: «Калі сёння нашы з Прэзідэнтам пазіцыі не супадаюць, то я гэтага не хаваю, як іншыя. Я магу супрацоўнічаць нават з Зянонам Пазьняком, калі ў яго ёсць нейкія канструктыўныя прапановы».

У той жа час Дзмітрый Булахаў заявіў, што ён не знаходзіцца ў апазіцыі да Прэзідэнта: «Недаравальна знаходзіцца ў апазіцыі да ўлады, неабходна шукаць шляхі ўздзеяння на яго». Тым больш, што, на думку Д.Булахава, пазіцыя Прэзідэнта мае шмат станоўчых бакоў.

**Юрась ДУБІНА.**

□ ВІНШУЕМ!

### ЗАСЛУЖАНЫХ І НАРОДНЫХ СТАЛА БОЛЬШ

Пярэдадзень Новага года па старому стылю азнаменаваўся для некалькіх вядомых у рэспубліцы людзей прыемнай навіной. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў шэраг указаў аб прысваенні званняў. За вялікі ўклад у развіццё беларускага выяўленчага мастацтва і падрыхтоўку высокакваліфікаваных кадраў мастаку-жывапісцу, прафесару Беларускай акадэміі мастацтваў Маю Вольфавічу Данцыгу прысвоена ганаровае званне «Народны мастак Беларусі».

Папоўніліся таксама рады народных артыстаў рэспублікі. За значны ўклад у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва гэтага ганаровага звання ўдастоены мастацкі кіраўнік і галоўны рэжысёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Валерый Мікалаевіч Раеўскі і актрыса Дзяржаўнага акадэмічнага рускага драматычнага тэатра Беларусі Вольга Міхайлаўна Дзянісава-Клебановіч.

### «ПРОТИВ НАРУШЕНИЙ ПРИМЕНИМ НЕПОПУЛЯРНЫЕ МЕТОДЫ»

Министр внутренних дел Республики Беларусь Ю.Захаренко высказал мнение, что политическая ситуация в Беларуси обостряется, и основная тому причина — предстоящие парламентские выборы.

«Политические силы стремятся взять большее количество мандатов в парламенте, — сказал он, — и МВД невольно втягивается в политические разборки, так как мы не можем позволить политическим лидерам и политическим партиям проводить свои целевые акции, попирая законы Республики Беларусь. Если же законы будут нарушаться, то мы будем вынуждены обеспечивать безопасность граждан непопулярными методами».

**Александр ШКУТЬКО.**

### ДАЕШЬ ЧЕМПИОНОВ!

В республиканском Дворце культуры Белорусского общества глухих проходит личный чемпионат Минска по шахматам. В соревновании участвуют около 30 инвалидов по слуху. Городской спорткомитет позаботился о призах для победителей. А с 20 по 21 января здесь же пройдет открытый личный чемпионат столицы по греко-римской борьбе, в котором примут участие до 40 спортсменов.

**Елена КЛИМЕНКО.**

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 18 января 1995 г.

| Наименование банка | Доллар США | | Немецкая марка | | Российский рубль | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | покупка | продажа | покупка | продажа | покупка | продажа |
| КОМПЛЕКС (за рос.руб.) | 11508* 4100 | 11800 | 7384* | 7672 | 2.73 | 2.82 |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 11500* | 11750 | 7490* | 7650 | 2.4 | 2.8 |
| БЕЛАРУСБАНК | 11680 11700** | 12120* | 7538 7597** | --- | 2.76* | 3.09* |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | 11500* | 11900* | 7400* | 7750* | 2.6 | 3 |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 11400* | 11750 | 7350* | 7580 | 2.65 | 2.9 |
| ПРОФБАНК | 11550 | 11800 | 7350 | 7600 | 2.75 | 3 |
| СБЕРБАНК | 11600 11700** | 11850 12000** | 7400 7600** | 7650 7800** | 2.7 | 2.85 |
| ОЛИМП | 11510 11545** | 11780 11090** | 7339 7361** | 7664 7741** | 2.73 2.84** | 2.84 2.95** |
| ДУКАТ | 11500* | 11800 | 7200* | 7600 | 2.6 | 3.0** |
| финансовая компания СОЛИД | 11500 | 11750 | 7400 | 7600 | 2.65 | 2.85 |
| МИЛАВИЦА филиал АКБ ДУКАТ | 11550* | 11900 | 7300 | 7650 | 2.4 | 2.9 |
| "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ-СКВ" | 11400 | 11800 | 7000 | 7500 | --- | --- |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор.дир.) | 11500 | 11700 | 7400 | 7550 | 2.7 | 2.9 |
| ВЕЛЕС филиал АКБ ДУКАТ | 11500 11720** | 11800 | 7350 7620** | 7650 | 2.6 | 3.0 |
| Филиал N 1 банка "ОЛИМП" | 11550* | 11800* | 7300* | 7600* | --- | --- |
| ПОИСК | 11500 | 11700 | 7100 | 7600 | 2.75 | 2.95 |
| МИНСКИЙ ТРАНЗИТНЫЙ БАНК | 11500 11600** | 11800* | 7300 7400** | 7700 7800** | 2.55 | 2.8 |
| ЕВРОПЕЙСКИЙ | 11450 11650** | 11750 11800** | 7300 7550** | 7650* | 2.7 2.85* | 2.9 3.00** |
| БЕЛБАЛТИЯ | 11400 | 11650 | 7300 | 7500 | 2.7 | 2.85 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | 11400 | 11700 | 7200 | 7700 | 2.3 | 2.9 |
| МАГНАТБАНК, ф-л 001 | 11200* | 11600* | 7050* | 7400* | 2.6 | 2.8* |
| ГУБИСС-РЕСУРС (за рос.руб.) | 11500 | 11800 | 6900 | 7590 | 2.3 | 3 |

* -- возможна операция за наличный и безналичный расчет

** Операция проводится только по безналичному расчету

В течение дня курсы могут меняться, курсы Головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.

Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова".

| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б/н расчетов) | 11700.00 | 7618.18 | 2.95 |
|---|---|---|---|

□ КОРАТКА

**Учора аднавіла сваю работу 15-я сесія Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў. Планавалася, што ў першы дзень дэпутаты разгледзяць ход выканання рашэння сесіі «Аб пераліку аб'ектаў камунальнай уласнасці, якія плануюцца для прыватызацыі ў 1993–1994 гадах».**

**Аднак пасля выступленняў у «Розным» старшыня гарсавета А.Герасіменка вымушаны быў перапыніць працу гарадскіх парламентарыяў. Высветлілася: у зале пасяджэнняў прысутнічае ўсяго 110 абраннікаў — няма кворуму.**

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ.**

* * *

*У канцы студзеня — пачатку лютага ў Мінску адбудзецца спецсемінар па пытаннях барацьбы з падлогам і махлярствам у эканамічнай сферы.*

*Праводзіць яго ў рамках барацьбы з міжнароднай арганізаванай злачыннасцю сакрэтная служба Міністэрства фінансаў ЗША. У семінары прымуць удзел каля 150 прадстаўнікоў праваахоўных органаў Беларусі. З іх спецыяльная камісія адбярэ шэраг супрацоўнікаў для навучання ў ЗША.*

* * *

**С 16 по 21 января Свободные профсоюзы проводят семинар по вопросам общепрофсоюзной учебы и трехдневный семинар на тему «Рабочие советы и советы трудовых коллективов». Второй семинар проводится с участием фонда Эберта, занимающегося в Беларуси помощью «в преодолении синдрома посттоталитаризма».**

* * *

*Занепакоенае няўхільным ростам захворвання на СНІД, кіраўніцтва Славянскага Сабора «Белая Русь» звярнулася да Вярхоўнага Савета рэспублікі з «рэкамендацыяй» у самыя сціслыя тэрміны распрацаваць і ўкараніць дзяржаўную праграму больш жорсткага медыцынскага кантролю за іншаземцамі, што прыязджаюць у Беларусь.*

*Як падкрэсліваецца ў адпаведнай заяве партыі, гэта асабліва тычыцца выхадцаў з азіяцкіх і афрыканскіх краін. Акрамя таго, аўтары заявы адзначаюць «неабходнасць ізаляцыі ад насельніцтва хворых на СНІД і ВІЧ-інфіцыраваных».*

**Наталля КУЛАПІНА.**

### ПРАЯЗНЫ БІЛЕТ — ГЭТА, САПРАЎДЫ, І ВЫГАДНА, І ЗРУЧНА

Відаць, не ўсе мінчане ведаюць аб гэтым новым правіле. Рашэннем Мінгарвыканкама ад 9 студзеня ўпершыню ўладальнікам месячнага праязнога білета (аўтобус, тралейбус, трамвай, метро) дадзена права праезду ў аўтобусах з экспрэсным рэжымам работы без якіх-небудзь дадатковых даплат. Так што набываць праязныя — у любым выпадку і выгадна, і зручна. Дарэчы, як паведамілі ў вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкама, у сярэднім мінчане купляюць у месяц 400-450 тысяч праязных білетаў. Гэту форму платы выбіраюць да 85 працэнтаў гараджан, якія не карыстаюцца льготамі на праезд. Цікава тое, што перавага аддаецца звычайна сумешчанаму білету «аўтобус-тралейбус», на другім месцы — так званы «адзіны».

Паказальна, што ўсё большае распаўсюджванне ў горадзе атрымлівае набыццё гэтых праязных дакументаў па безнаяўнаму разліку. Сёння больш за тысячу прадпрыемстваў, арганізацый, фірм і ўстаноў такім чынам праяўляюць клопаты аб сваіх калектывах.

**Таццяна СМІРНОВА.**

### ПАМЯТЬ РОССИЙСКИХ ПОЭТОВ ЧТУТ В МИНСКЕ

Вечер, посвященный творчеству московского поэта Александра Испольнова, проводит 19 января в Образовательном центре национальных культур в Доме ветеранов общество русской культуры «Русь».

Стихи поэта, со дня трагической гибели которого прошло чуть более года, на вечере будут читать актер Владимир Гостюхин и поэтесса Любовь Турбина. Организаторы литературного вечера планируют также почтить память еще одного российского поэта — Николая Рубцова, погибшего в этот день 24 года назад.

**Александр КАЗАК.**

### ШАНОЎНЫЯ ВЫБАРШЧЫКІ!

Запрашаем вас на сустрэчу з дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад БНФ Зянонам Пазьняком і Сяргеем Антончыкам і дэпутатам Мінгарсавета Галінай Вашчанка , якая адбудзецца 19 студзеня ў 19.00 у актавай зале школы № 208 па праспекце Любімава, 29.

ГОСУДАРСТВЕННЫЙ ОЛИМП

## ВИКТОР АЛАМПИЕВ: «БЮДЖЕТ ПРИНЯЛИ, ОДНАКО ОПТИМИЗМА НЕ ПРИБАВИЛОСЬ»

**Вчера парламентарии, наконец, утвердили республиканский бюджет на текущий год. Своими мыслями и размышлениями по этому поводу корреспондент «ДВ» ЛЮДМИЛА КЛАСКОВСКАЯ попросила поделиться заместителя председателя парламентской комиссии по экономической реформе, достижению экономической самостоятельности и суверенитета республики ВИКТОРА АЛАМПИЕВА.**

— Мое твердое убеждение: только что принятый парламентом бюджет не обеспечит подъем благосостояния наших граждан. Посмотрите, что предложил Кабинет министров при поддержке Президента? Расходная часть бюджета гораздо больше, чем доходная. Это значит, что запланирован дефицит бюджета. И уже сейчас нетрудно спрогнозировать в ближайшее время дальнейший бешеный виток инфляции. Ведь одним из источников покрытия дефицита является печатание одного триллиона триста миллиардов пустых денег.

В ходе обсуждения депутаты настойчиво требовали увеличить финансирование науки, культуры, охраны здоровья. То же касается и вопросов жилищного строительства, пенсионного обеспечения. А это означает, что Верховный Совет обязан был — учитывая, что на наших граждан обрушилась вся тяжесть ценового беспредела, поставившего их на грань выживания, — найти возможность пополнить доходную часть бюджета.

И фракция БСДГ в парламенте пыталась внести на этот счет конкретные поправки к закону. Кстати, Кабинет министров, предварительно ознакомившись с ними, согласился: есть, мол, над чем думать. В то же время эти предложения не приняты.

О чем идет речь?

Использовать в виде бюджетных доходов сборы за транзит через нашу территорию — граждан, грузов, энергоносителей. А также плату за аренду имущества и земли, что используются военными объектами России.

Мы предлагали сократить и некоторые статьи расходов бюджета. В частности, уменьшить в 2 раза финансирование фонда Кабинета министров и Министерства финансов. Увы, предложение не прошло.

Далее. Убежден: если парламент и правительство не осознают, что ситуация вынуждает прибегнуть к нашему последнему стратегическому резерву — земле — и начать поэтапно создавать рынок земли под конкретные инвестиционные проекты, дела в экономике не поправятся. В порядке эксперимента мы предлагали продать 8 тысяч 400 гектаров земли — 0,04 процента всего земельного фонда. Конечно, многие относятся к этому с опасением: мол, вот приедут к нам инвесторы и скупят все на корню. Нужно снять этот психологический барьер! Речь, конечно же, не идет о земле пахотной. Речь идет о городских пустырях, о земле вдоль главных коммуникаций. Даже если взять вдоль одной трассы, что идет от Бреста через Минск и Оршу на Москву, — набегает около 24 тысяч гектаров. Сколько отелей, ресторанов, гостиниц, магазинов можно построить! Скажите, кто пострадает?

Без рынка земли, без приватизации нас ждет тупик, из которого нет выхода. И если правительство будет продолжать играть по тем правилам, которые оно себе придумало, не скоро мы увидим свет в конце туннеля. Опыт наших соседей — красноречивое тому подтверждение. Там, где последовательно ведутся реформы, есть подъем экономики, приостанавливается рост цен, снижается инфляция. Сегодня у всех соседних государств средние доходы на душу населения гораздо выше, чем у нас. В той же Польше, например, которая покупает нефть по мировым ценам, эти доходы выше в 25 раз.

Сегодня правительство предлагает: чтобы насытить рынок, остановить массовый вывоз товаров, нужно, мол, в 2 раза повысить цены и зарплату. Но этим приемом надо было пользоваться три года назад (как это сделала Литва), когда на территории бывшего СССР действовала единая денежная единица и уровень зарплаты практически был одинаковым. Теперь же в Прибалтике средняя зарплата — 120-140 долларов, у нас — 15. Представьте, как нужно взвинтить цены, чтобы товар не уезжал, а приезжал к нам. Повторюсь: этот путь тупиковый. Мы настолько отстали в экономическом развитии, что такие меры посадят людей на хлеб и воду, а больше ничего не дадут.

В такой ситуации, думается, Верховный Совет не будет сторонним наблюдателем, а все же потребует от нынешнего руководства последовательного проведения реформ, подъема производства. И мы настаивали на принятии поправок к закону о бюджете, надеясь, что наши коллеги обсудят их. Увы, этого не случилось. Вот почему, хотя бюджет и утвердили, оптимизма не прибавилось.

И я думаю, что изменения в лучшую сторону наступят только после новых выборов, когда в парламенте изменится расстановка сил. А вот это уже зависит от самих людей, от того, смогут ли они выбрать тот Верховный Совет, который будет защищать их интересы.

НАШ РОДНЫ ГОРАД

*Мікрараён "Вяснянка".*

Фота Міхаіла МІНКОВІЧА.

У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ

### АФІЦЫЙНА ПАПРАЎКІ ПРЫЗНАНЫ НЕАБХОДНЫМІ

Адбылася сустрэча прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра з дэлегацыяй Міжнароднага валютнага фонду, узначаленай Саветнікам другога Еўрапейскага ўпраўлення МВФ Анры Лоры. Мэта візіту дэлегацыі ў нашу рэспубліку — дасягненне пагаднення па папраўках да прапанаванай МВФ эканамічнай праграмы. Гэтыя папраўкі прызнаны неабходнымі ў якасці папярэдніх умоў для атрымання знешняга фінансавання Беларусі ў 1995 годзе ў выніку сустрэчы краін-крэдытораў. Адбылося дзелавое і канструктыўнае абмеркаванне пытанняў, звязаных з аказаннем дадатковай фінансавай падтрымкі рэспубліканскай праграмы стабілізацыі і рэформ. У выніку перагавораў узгоднены пазіцыі бакоў у галіне тарыфаў на камунальныя паслугі, палітыкі цэн, падаткаў і іншыя. Выказана ўпэўненасць, што да канца студзеня 1995 года праграма Рэспублікі Беларусь будзе адобрана Саветам дырэктараў МВФ. У гутарцы прынялі ўдзел члены ўрадавай дэлегацыі на перагаворах з МВФ на чале з Міхаілам Мясніковічам.

**Прэс-служба Кабінета міністраў Рэспублікі Беларусь — БЕЛІНФАРМ.**

СВАБОДА СЛОВА

### ЗАКЛЮЧЭННЕ ГЕНЕРАЛЬНАГА ПРАКУРОРА

13 студзеня Генеральны пракурор Беларусі Васіль Шаладонаў прадставіў Вярхоўнаму Савету заключэнне па выніках праверкі факта забароны публікацыі ў сродках масавай інфармацыі даклада дэпутата Сяргея Антончыка.

Згодна з заключэннем, падзеі развіваліся наступным чынам. 20 снежня, адразу ж пасля выступлення Антончыка, начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандр Фядута сустрэўся з галоўнымі рэдактарамі рэспубліканскіх газет «Советская Белоруссия», «Народная газета», «Звязда» і «Рэспубліка». Падчас гэтай сустрэчы А.Фядута прасіў не публікаваць даклад С.Антончыка да праверкі праваахоўнымі органамі змешчанай у ім інфармацыі. Паводле тлумачэння Фядуты, усе галоўныя рэдактары згадзіліся з яго прапановай. У гэты ж дзень А.Фядута пазваніў генеральнаму дырэктару дзяржаўнага выдавецтва «Беларускі Дом друку» Барысу Кутавому і даў указанне не публікаваць даклад да 1 лютага 1995 года.

Аднак 21 снежня рэдакцыя газеты «Советская Белоруссия» перадала ў выдавецтва арыгінал-макет нумара за 22 снежня, у якім была набрана частка выступлення дэпутата С.Антончыка. Інжынер-тэхнолаг выдавецтва Леанід Чуліцкі, выконваючы ўказанне дырэктара не публікаваць даклад, паведаміў пра гэта прадстаўнікам «Советской Белоруссии». Не знайшоўшы на месцы кіраўнікоў выдавецтва, намеснікі галоўнага рэдактара «Советской Белоруссии» Аляксандр Градзюшка і Ігар Грышан прынялі рашэнне выпусціць нумар без выступлення Антончыка. У выніку нумар «Советской Белоруссии» ад 22 снежня быў аддрукаваны з белымі плямамі.

22 снежня рашэнне публікаваць даклад Антончыка прынялі газеты «Звязда», «Рэспубліка», а «Народная газета», па словах В.Шаладонава, «з улікам палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы» вырашыла адмяніць запланаваны на 23 снежня нявыхад газеты і таксама прадставіла ў выдавецтва нумар, цалкам прысвечаны дакладу Антончыка.

Інжынер-тэхнолаг выдавецтва Л.Чуліцкі прапанаваў прадстаўнікам рэдакцый або зняць выступленне, або адмовіцца ад выхаду газет. Усе рэдакцыі, акрамя «Народнай газеты», прынялі рашэнне зняць даклад і друкаваць нумары з белымі плямамі.

Начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта А.Фядута паведаміў, што рашэнне аб забароне публікацыі даклада С.Антончыка было прынята ім асабіста. Ніякіх указанняў з гэтай нагоды ад кіраўніка Адміністрацыі не паступала.

У заключэнні Генеральнага пракурора сказана, што забарона на публікацыю даклада дэпутата Антончыка выклікала парушэнне правоў грамадзян на своечасовае атрыманне інфармацыі, таму ў дзеяннях Фядуты і іншых службовых асоб, якія забаранілі публікацыю даклада, «бачацца некаторыя прыкметы саставу злачынства, прадугледжанага артыкулам 167 Крымінальнага кодэксу Беларусі — «Перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў». Аднак гэтыя дзеянні не даюць дастатковых падстаў для таго, каб завесці крымінальную справу, паколькі забарона на апублікаванне выступлення была накладзена толькі да праверкі сапраўднасці выкладзенай у ім інфармацыі, што нельга расцэньваць як прычыненне істотнай шкоды правам і законным інтарэсам грамадзян або дзяржаўным, або грамадскім інтарэсам».

Што тычыцца нявыхаду 23 снежня «Народнай газеты», то, па словах В.Шаладонава, «адказнасць за гэта нельга ўскладаць на выдавецтва «Беларускі Дом друку», паколькі выпуск «Народнай газеты» за 23 снежня не планаваўся.

**Юрась ДУБІНА, БелаПАН.**

КРЫМІНАЛ

### «САМІН», З ЯКІМ НЕ ЖАРТУЮЦЬ...

Праваахоўныя органы рэспублікі пачалі расследаванне па факту продажу ракетнага паліва «Самін» пад выглядам прамысловага.

Ракетнае паліва «Самін» падлягае вывазу ў Расійскую Федэрацыю з расфарміраваных і выводзімых расійскіх воінскіх часцей, часова размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Істком» абавязалася не толькі транспартаваць гэты кампанент, але і ўтылізаваць яго, не выкарыстоўваючы па прамому прызначэнню і не перадаючы трэцім асобам.

Аднак у фірме «Істком», відаць, забыліся аб сваіх абавязацельствах і адгрузілі на некаторыя беларускія прадпрыемствы некалькі чыгуначных і аўтамабільных цыстэрнаў моцнатаксічнага «Саміна» пад выглядам прамысловага паліва. Пры гэтым былі груба парушаны ўмовы транспарціроўкі, захоўвання і аховы ядавітага кампанента. Адсутнічалі і спецыяльныя меры аховы рабочых, якія праводзілі разгрузку. У выніку некалькі чалавек атрымалі хімічныя апёкі.

Як паведамляе прэс-служба Міністэрства абароны, ваенкаматы інфармуюць насельніцтва аб небяспецы набыцця ракетнага гаручага. Міністрам абароны прыняты дадатковыя меры для таго, каб не дапусціць далейшага распаўсюджвання таксічнага паліва і забяспечыць яго надзейную ахову. Начальніку Генеральнага штаба Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі накіравана тэлеграма з патрабаваннем навесці парадак у захоўванні паліва і забяспечыць план вывазу ракетных кампанентаў з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

**БЕЛІНФАРМ.**



ЛЮДИ И ДЕНЬГИ

### ИНКАССАТОРЫ ВООРУЖАЮТСЯ

По согласованию с Министерством внутренних дел, Министерством юстиции Нацбанк утвердил положение о службе инкассации.

Работники службы в соответствии с законом «О банках и банковской деятельности в РБ», нормативными документами МВД вооружаются огнестрельным оружием.

Инкассаторы имеют право применять оружие для защиты денежных средств и ценностей от преступных посягательств, для отражения нападения, для задержания преступников, совершивших нападение на работников инкассации или охраняемые ими ценности.

Уголовная ответственность предусмотрена как за незаконное применение инкассатором оружия, так и за неприменение его, когда это было необходимо для выполнения служебного долга.

**Светлана УНУКОВИЧ, РИД.**

